+ 10.000.000 забітых
19.000.000 скалечаных

= вынік імпэрыялістычкай бойні



ЗІНЫ ШЛЯХ ДА ПАЗБАЎЛЕНЬНЯ
ЖАХАЎ ВАЙНЫ ЗАКЛЮЧАЕЦЦА
РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ ЗМАГАНЬНІ
СОЦЫЯЛІЗМ.

ЛЕНІН.



№ 15

ЧЫРВОНАЯ
БЕЛАРУСЬ

# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА



У Бэрліне адбыліся сур'ёзныя студэнцкія хваляваньні. На здымку. Арышт студэнта перад будынкам бэрлінскага унівэрсытэту



У той час калі камісія лігі нацый „вывучае" становішча ў Манчжурыі Японія працягвае захватніцкую дзейнасьць. Уваход у рэзыдэнцыю Пу-і. Зьнята ў час наведваньня ПУ-і збоку комісіі Літтона



Эканамічны крызіс у Нямеччыне працягвае паглыбляцца. Горы руды ляжаць без скарыстаньня на дварэ аднаго з сталяліцейных заводаў, уваходзячых у склад Фэрайнігтэ Штальверк





Мітынг Ньюёрскіх рабочых супроць новай імпэрыялістычнай вайны

Справа: Манэўры Амэрыканскага флёту, якія адбыліся нядаўна каля берагоў Каліфорніі





Пад заслонай жэнэўскай конфэрэнцыі. Новы тып кулямёту, уведзены ў швейцарскай арміі

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЖНІВЕНЬ 1932

№ 15

Адрас редакцыі: Менск, Савецкая, 59.
Тэлефон 17—09

МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

## НА ПАРАСТКАХ ДЗЁН—ДЫНАМІТ

На парастках дзён—дынаміт,
А пальцы стралкоў на паўкорчы.
І справа дарады ўжо міт—
На парастках дзён—дынаміт.

Зіхціць надыходзячы дзень,
Ў настрояны зброямі строй.
Спакою надуманы цень—
Зіхціць надыходзячы дзень.

Размовай яго ня суняць,
Разбойны лірычны паказ.
Вайна! Урачыстасьць, вайна!
Размовай яе ня суняць.

Бо рухнулі пэрлы маны,
Аб росквіце творчым Эўропы,
З пад сукняў яе—рызманы—
Бо рухнулі пэрлы маны.

Ня ўмоліць хадні, лабатрас,
Ніякі малітвенны звон.
У наступ атрутны газ—
Няўмоліць хадні лабатрас.

Краіна мая, твой спакой
Хвалюе шаленствам сусьвет.
І рушаць яны талакой,
На твой і на наш супакой.

Бо нашай будоўлі размах
Братом вызвалельне нясе.
Рыхтуецца з ціху замах
На нашай будоўлі размах.

І ў гэты наструнены час
Нацяты бікфордавым шнурам.
Спакой, на муштроўку адчай—
Ў гэты наструнены час.

Часова стаяць рубяжы,
Рабочы ня ведае межаў.
Ад гневу зямля задрыжыць—
І рухнуць тады рубяжы.

Гістор'я ня сплюшчыць павек,
Вось лічбы „Вялікай вайны".
29.000.000 ахвяр і калек—
Гістор'я ня сплюшчыць павек.

Нам будучынь заўжды каваць
І клясава—быць авангардам.
Зьляціць не адна галава,
А будучынь нам-жа каваць.

І кожны завод, кожны гмах
Збудованы ў тэрмін, па пляну.
Штурмуе варожы замах,
Наш кожны завод, кожны гмах.

А покуль ударней варштат
І творча палайма уздымней
Ў тысячы воль-кілёват
Уздымней, ударней варштат.

І стоячы нам ля стырна,
І стоячы нам ля варштату.
Штурмуйма дагнаць—перагнаць—
Каб цьвёрда стаяць ля стырна.

Бо дзень надыходзіць навал,
Дзень гневу і клясавай бойкі,
Муштруе палкі генэрал
І дзень надыходзіць навал.

Ня толькі будоўляй гарэць
І творчаю моцай павінны.
Ці спраўны ў ладунках сьвінец?
Ня толькі будоўляй гарэць.

Гістор'я ня сплюшчыць павек,
Вось лічбы „Вялікай вайны"
29.000.000 ахвяр і калек—
Гістор'я ня сплюшчыць павек.

І ў гэты наструнены час,
Нацяты бікфордавым шнурам
Спакой, на муштроўку адчай—
У гэты наструнены час.

МАКСІМ ЛУЖАНІН

## ДОБРАЕ НАВЫРАСТ

Новая гадзіна
ходзіць з новай справай.
долу пахаваўшы
лапаць і радно,
Шляху за плячыма—
ніштават акравак—
возьме ды згадаецца
бытае даўно.
Толькі
— здэцца ўчора—
грукатаў сямнаццаты,
а ўжо час шуміць
на скроні сівізну—
хлопцу-комсамольцу
выбіла пятнаццаць,
дзеўчына на лета
пойдзе ў ВНУ.
Калі ўрод на полі—
будзе
і ў арудзе,
ёсьць здабычы ў шахце—
дык жыве завод,
скуткі нашай працы—
павучыцца людзям:
добрае навырасьт,
а ліхому звод.
Новая гадзіна
ходзіць
з новай справай,
часам
прыгадаецца
бытае даўно,
бытае—і бітае,
як нацдэмаў слава,
час
калі ахайвалі
зямлю ад паноў.

Ну, ішла-ж бязгодзіца!
За кустамі густа
Гухкалі гарматы
і зьвінеў багнэт.
Так, яснавяльможныя,
падціскай агузьзе,
не агуджвай сонца
нашай старане.
Гэта,
мае любыя,
ня гэтак і проста,
пазнаваць радзіму
вучацца сваю.
Гэта ня так проста
паразьмерваць вёрсты,
ад сябе слупамі
адсячы Саюз!
Здэцца,
грань звычайная,
як у жыце сьценка,
ветры з цішынёю
падурэлі й квіт...
А нічым—чагенька,
а нікім—кагенька—
пара вербалозьнікаў,
пара вартавых.
Звоніць дзень пагодны.
Сонца—
ляжа й вернецца,
гэтакаю-ж сьцежкаю
перакрочыць ноч.
Б'юцца за мяжою
міліёны сэрцаў,
сэрцаў міліёны
нашых,
як адно!

Дрэмле за мяжою
міліён гарматаў,
рымскі папа-выпса
ўзьдзене,
срацэт свой...
Самалёт за хмары—
гэта ваш пачатак,
так ці што
ўздымацьмеце
бой?
Ў нас гады праходзілі,
быццам супакоем;
клалі сабе шош,
жалі ячмені,
выпускалі блюмінгі,
ладзілі забої
і крыху набояў
на выпадак вайны.
Мы яе ня хочам,
нам
крыві ня трэба,
ваша ўсё
разьвяжацца
ў клясавай вайне.
Зьмёўшы цені панства
адусюль з-пад неба—
на аброку поля
выстраім багнэт.
Гэта,
мае любыя,
ужо ня так і проста!
Што-ж вайну абвесьціце?
На шыю на сваю:
Ён у днёх гартуецца,
у гадох выростае
ўсіх рэспублік сьвету
сонечны Саюз.

З. Бядуля

# Агнем і крывёю

Дзед Ігналя быў маленькі, як дзесяцігадовы хлопчык. Суседзі гаварылі, што ён пачаў расьці ў зямлю. Яму пад восемдзесят год. Левае вока ў яго прытулена сіняватым векам, правае блішчыць. Калі здарыцца часам выпіць у суседа чарку гарэлкі, тады і левае вока расплюшчваецца і паглядае навокал зьдзіўлена, у сьляпучым бляску, радасна, нібы ўпяршыню белы сьвет угледзела. А як толькі хмель выйдзе з галавы, века зноў слабее і фіранкай апускаецца на левае вока, як-бы няцікава глядзець на тое, што бачыць правае вока.

Стары шчыпле каравымі пальцамі рэдкі сівец бародкі і правае вока яго блішчыць маленькім жучком.

На вайне ўжо другі год дзедавыя малодшыя сыны і старэйшыя ўнукі.

Спачатку ён мала дбаў аб гэтым:

— Шапкамі немца закінем. Ня пройдзе і трох месяцаў, як вайна скончыцца і ўсе вернуцца да хаты.

Гэтыя словы стары чуў ад валаснога старшыні, старшыня— ад бацюшкі, бацюшка—ад станавога прystава.

Але вось ужо другі год як цягнецца вайна, а канца яшчэ няма. І дзед Ігналя пачуў новае пра вайну ад валаснога старшыні, а той ад бацюшкі, а бацюшка ад станавога прystава:

— Гэта вайна ацечаственная і працягнецца яна некалькі год.

Тым часам адзін Ігналяў сын апынуўся ў палоне ў немца. Другі „паў слаўнай сьмерцю за цара і ацечаства“. Адзін унук нічога ня піша з фронту, другі „адважна ідзе на немца“.

І дзед Ігналя часта пытаецца:

— Чаму так?

— Навошта вайна?

— За што людзі пакутуюць?

Так ён пытаецца ў суседа Мікалая, які нядаўна вярнуўся з фронту. Мікалай вярнуўся калекай—бяз правай рукі. А ён быў адным з лепшых касцоў у вёсцы... І вось цяпер Мікалай ня можа глядзець на касьбу, злуецца ды ўвесь сьвет праклінае... Вочы Мікалая гараць шэрым агнём, страшна гараць ад злосьці. Ён глядзіць на дзеда Ігналю і так моцна трасе леваю рукою, ажна правае пустое рукаво матаецца туды і сюды, як на пудзеле гародным.

— Навошта вайна?—перапытваецца Мікалай і мерыць вачыма старога з ног да галавы,—каб наш брат бедны гібеў на фронце, а каб багаты яшчэ больш багацеў.

— Як жа-ж гэта?—дзівіцца дзед.

— А зусім проста,—тлумачыць Мікалай і левай адзінай рукою трасе дзедава плячо, каб той лепш зразумеў.—Вось, скажам, наш стары пан Таўкайла. Надзеў паўкоўніцкія пагоны і скаціну скуплівае для арміі. Ня мала ён на гэтым зарабляе. А яго сынкоў бачыў? Нядаўна тут былі—бліскучыя, чырвоныя, адкормленыя, у афіцэрскіх пагонах. У Менску ў земсаюзе спакойна сядзяць, бакі абіваюць. Акопаў і ня нюхалі.

У дзеда Ігналі пры гэтых словах, нібы ад чаркі гарэлкі, расплюшчваецца на хвіліну левае, заўсёды прыплюснутае вока.

* * *

На вёсцы вялікая трывога. Дзяўчат і хлапцоў-падлеткаў пагналі за дваццаць вёрст акопы капаць. Усе хаваліся па гумнах і хмызьняках, але прыехаў ураднік з трыма стражнікамі і пазьбіраў усіх. Войкалі і галасілі—нічога не памагло. Па заможніцкіх хатах начальства гарэлкай паілі, тыя дома засталіся. Невялічкая вёска Калыскаўка на другі год вайны моцна пачула наближэньне фронту. Па хатах толькі старыя і малыя. Праз вёску пачалі праяжджаць абозы бежанцаў. Брудныя і запыленыя, смаглыя і змучаныя, яны ў гарачыя сьпякотныя дні просяць вады і хлеба. Роспач сьмерці сьвеціцца з іх вачэй, хрыпяць у іхных словах. З вясковых студняў павычэрпвалі ўсю ваду... Пехатою і на фурманках соўваюцца бежанцы дзівосным ланцугом праз вёску Калыскаўку, ідуць наперад з розных месц няма ведама куды, рынуліся з наседжаных гнёзд сотні і тысячы. Нібы ганьня ваўкоў за спалоханым стадам, за імі імчыцца голад, халера, тыфус і сьмерць. Абапал тракту ля вёскі Калыскаўкі вырастаюць шарэнгі крыжоў—бярозавых, сасновых, на скорую руку зьбітыя.

Калі-ні-калі ў перамешку з бежанцамі праймчыцца праз вёску вайсковы абоз. Часам салдаты-пастухі гоняць тут вялізныя стады кароў.

Гэта пан Тукайла скуплівае гаўяда для арміі. А пастухамі ў яго тыя з багацейшых людзей, якія за гэта яму грошы плацяць: каб толькі не папасьці на фронт. Пастухі-салдаты балююць, самагон п'юць па лясочках, частуюць гарэлкай і брыдкімі хваробамі баб-салдатак.



Па гасьцінцах і...

Каровы пазіраюць на пыльную незнаёмую дарогу выпучанымі рахманымі вачыма і нейкім нязнаным спалохам, жаласьліва рыкаюць.

Дзед Ігналя ківае галавою і плача. Здаецца яму, што плача ён не па каровах, а па родным сыне, які „паў слаўнай сьмерцю за цара і ацечаства“, па другім сыне, што ў палоне гібее, па ўнуках, па тым, што ў Мікалая руку шрапнэльлю адарвала.

І дзед кажа:

— Людзі, дык хоць маюць розум, але чым вінавата жывёліна? Навошта над ёю зьдзекуюцца?

А на гэта яму аднарукі Мікола:

— У тым то і ўся закавычка, што і людзі розуму ня маюць. Бо каб наш брат меў розум, кончылі-б хутка вайну.

— Як гэта „кончылі-б“?!—дзівіцца стары Ігналя.

— А проста збунтаваліся-б, сказалі-б: ня хочам ваяваць ды й годзе!

— А каб на бунтаўшчыкоў іншых салдатаў са стрэльбамі?— непаддаецца дзед.

— І другія салдаты не захацелі-б ваяваць. І яны ахвоты ня маюць на гэта.

— А начальства?

— Начальства мала. Іх—раз—два і гатова!

— А тым часам немец на нас,—хітра кіўнуў пальцам на Мікалая дзед Ігналя.

— І нямецкіх гаротнікаў начальства гвалтам гоніць. Маглі-б і немцы тое самае зрабіць.

Дзед дзівіцца:

— Такая простая штука, а нікому на розум ня прыдзе.

— Прыдзе!—са злосьцю і ўпэўнена прахрыпеў аднарукі.

* * *

Канчалі жыта жаць. На бярозе каля Ігналевай хаты нядаўна пачалі паказвацца жоўтыя лісткі. Пагода стаяла лагодная. Калі-ні-калі, як-бы ўкрадкам, чуліся ля выгана сумныя жніўныя песьні вясковых кабет. У цёплыя сіня-залатыя падвячоркі плылі гэтыя песьні гучна і гарэзьліва.

— Галёкайце на свае ўласныя галовы!—злаваўся дзед Ігналя на сьпявачак.—Сьпевы лезуць вам у дурныя мазгі...

А вось дзед прынёс вестку:

— Вайна набліжаецца і сюды...

Было так. Ён быў на начлезе разам з аднарукім Мікалаем. Коняй пасьвілі на расьцяробе. Мікалай з вялікім жалем у голасе апавядаў, што кожны раз уначы сьніцца яму правая рука: нібы ён не калека, а косіць, увесь час, косіць вялізны

луг; сонца сьвеціць, птушкі сьпяваюць, а ён косіць ды косіць... а яму так лёгка на сэрцы... Дык вось стары нешта пачуў і спыніў яго:

— Пачакай Міколка. Мне здаецца, што недзе грыміць.

Стары і Мікалай наставілі вушы ў бок цёмнага хмызьняка і балота. У бяздоньні неба яскравіліся, нібы вугольчыкі, маленькія зоркі.

Гу-у-у-у-у... гу-у-у—чуваць было здалёку, нібы з-пад зямлі.

— Не, гэта не пярун, а з гармат страляюць,—тлумачыў аднарукі.

З кожным днём гукі надыходзілі шчыльней да вёскі, Нарэшце застагнала зямля, задзынкалі шыбы мал-ньківх вакон. Уначы ружавелі ўскраіны неба, палыхалі яркія зарніцыа пажарышч.

Сяляне ўстрывожыліся. Перасталі спаць па начох і давай на гародах закопваць кублы з дабром.

Дзед Ігналя глядзеў на ўсё гэта і зьдзіўлена пытаўся:

— Чаму так?

* * *

У вёску прыехала нямецкая разьведка—пяць коньнікаў у касках, з пікамі.

— Мільк! Мільк!—прасілі яны.

Ніхто не зразумеў, чаго яны хочуць.

А жыў у Калыскаўцы каваль Мэндаль.

— Мэндаль разумее па-нямецку!—сказаў стары Ігналя. Прывялі спалоханага Мэндаля. Ён быў босы, бяз шапкі. У чорных вачох яго мігацеўся страх. Дрыжучым голасам ён зьвярнуўся да немцаў:

— Вос? Вос?

— Мільк!

— Малака просяць,—растлумачыў Мэндаль сялянам.

— Гыш, як Мэндаль гэргэкае з немцамі!—зайздросьціў дзед Ігналь.—Што і казаць, чалавек бывалы!

А Мэндаль стаяў спалоханы і рукавом бруднай кашулі выціраў пот з валасатага ўзлахмочанага твару. Рукі ў яго дрыжэлі, як пустое рукаво аднарукага Мікалая.

Немцы яшчэ папрасілі яек і аўса для коняй.

* * *

Праз некалькі дзён пасьля немцаў прышлі казакі. Ехалі з гікам і сьвістам не па дарозе, а полем, адратавалі аўсы.

— Ой, што вы робіце, землячкі! Ня губіце нашай працы!—лемантавалі сяляне.

— Шкадуеце, сабачыя дзеці? Герману хочаце пакінуць?

Вяскоўцы схаваліся па хатах. Казакі за імі ўздагон.

— Зараз выбірацца адгэтуль! Тут будзе пазыцыя!

— А родненькія, а міленькія!—завойкалі, заламалі рукі кабеты.—Дзе-ж нам дзецца?

— Да заўтра ачысьціць халупы. Каб тут ніводнага чалавека не засталося!

Так крычаў на ўсю вёску вусаты казацкі сотнік. Дзіка блішчэлі яго раскосыя вочы і ён узмахваў нагайкай.

На вёсцы пачалося выцьцё;

— Родненькія... Міленькія...

Старыя кабеты кінуліся рукі цалаваць казакам, туліліся тварамі да казацкіх ботаў, і зрабіліся няпрытомнымі ад роспачы.

— Нагайкамі свалату гэту! Нагайкамі!—камандаваў казацкі сотнік.—Няма чаго важдацца з імі!

— А мы-ж вашыя завошта біць нас?..

— Хутчэй стада прыгнаць з поля!—закамандаваў казацкі сотнік.

Казакі мітусіліся па вуліцы. Заходзілі ў хаты. Адтуль чуваць быў візгат дзяўчат...

— Чаму так, пане благародзьдзе?—зьвярнуўся стары Ігналя да казацкага сотніка.

У дзеда адчынілася заўсёды заплюшчанае левае вока, блiснула агнём.

— Старога біць не выпадае. Я-ж магу быць тваім дзедам...

Не закончыў стары Ігналя гэтых слоў, як сотніцкая нагайка апаліла яго сьпіну два разы.

Дзед парухавеў.

Тым часам пачуліся новыя галасы. Два казакі вялі каваля Мэндаля да свайго начальніка. За імі ішла сям'я каваля: жонка і дзеці, і галасілі.

— Нямецкага шпега, жыда прывялі, ваша благародзьдзе!—далажылі казакі свайму начальніку.

* * *

— Дзед Ігналя! Дзе-э-эдї—крычаў аднарукі Мікалай і па ўсёй вёсцы шукаў дзеда.

Ігналя голасу не падаваў. Ён прытаіўся ў тарпе жытніх снапоў на гумне.

— Што будзе, дык будзе, а я тут застануся,—думаў дзед.

Ён чуў як прыгналі стада з поля, як шорхалі рыдлёўкі па гумнах, як скрыпелі калёсы. Людзі адкопвалі кублы з дабром, клалі на вазы, крычалі, тупаліся. Плакалі малыя дзеці і кабеты. Праз жытнія снапы галасы і ляманты, плач Мэндэлявай сям'і зьліваліся ў адно выцьцё і даходзілі да вушэй дзеда спачатку ясна, а пасьля прыглушана...

Дзеду здавалася ў гэты час, што ён схаваўся ад усяго сьвету, што ніякая вайна да яго цяпер ня дойдзе. Жытнія каласы ласкаталі яго твар, рукі, песьцілі як роднага...

Ныла сьпіна ад сотніцкай нагайкі. Дзеду не навіна—успомніў маладыя гады—і тады сьпіна часта ныла ад панскіх бізуноў: прывык...

— Чаму так?—запытаўся ён і ўспомніў гутарку Мікалая аб тым, што людзі маглі-б збунтавацца і ўсе гэтае ліха скончылася-б...

Доўга стары ляжаў у снапох. Як асьцярожна высунуў галаву. каб пачуць і паглядзець, што робіцца вакол, дык ужо людзкіх галасоў ня чуваць было. Затое ад гарматных грукатаньняў дрыжэлі сьцены, дрыжэла зямля, дрыжэла ўся ваколіца...



... чыгуначных пуцях ехалі тысячы бежанцаў, а за імі цягнуліся вайсковыя эшалёны.

Дзед вышаў на гумно. Яшчэ ярчэй палыхалі пажарышчы. Устрывожана шчабяталі птушкі.

— І птушкі баяцца спаць,—падумаў дзед.

Стары зірнуў угару. Зоркі, як заўсёды сьвецяць спакойна. Падзьмуў цёплы ветрык і панесла пахам гары і пораху.

Ён кінуўся ў вёску. Ціха. Ніводнай жывой істоты. Нават сабакі пабеглі за вяскоўцамі—за новымі бежанцамі...

На адным дварэ жаласьліва рыкала цялушка. Дзед пабег на гэты голас, як на кліч роднага ўнука...

— Стары Язэп цялушку забыў. Такі добры гаспадар, а скепсьціўся...

Дзед падскочыў да цялушкі, яна кінулася да яго і давай лізаць яго рукі цёплым вільготным языком. Ён пачаў яе гладзіць па бакох і ціха, бяз сьлёз, заплакаў.

— Што-ж яна цялушка вінавата?..

* * *

Разьвіднелася, хаця яшчэ не надышла раніца. Гарэлі блізкія хутары. Нейдзе недалёка грукатала, ляскатала, візгатала. Агнёвая мяцеліца рассыпала нейдзе гарачы град. Да дзедавага слыху дайшло гіканьне, сьвісты, дзівосныя гукі.

— Тр-р-рах, тах, тах!

— Гу-у-узь! Гу-у-узь!

Ня то малоцяць па каменьнях жалезнымі цапамі...

Дзед ніколі ня чуў такіх гукаў...

Па сэрцы рэзала нажом рыканьне цялушкі.

— Вось акурат малое дзіцянё плача...

Дзед пабег вуліцай. Часта наступаў нагамі на нешта цьвёрдае, мокрае і сьлізкае. Ён нагнуўся, падняў адзін камок:

— Курыная галоўка.

Многа іх было каля хат. Ён успомніў, што надта куры крычалі ўдзень. Казакі шаблямі ім галовы паадсякалі.

— Вось і вайна...

Ён падышоў да сваёй хаты. Пад бярозай стаяў нярухома высокі страшны чалавек з вытарашчанымі вачыма. Дзед спалохаўся і падышоў бліжэй дробным крокам.

— Мэндаль!!—крыкнуў дзед не сваім голасам.

Гэта вісеў на яго бярозе каваль Мэндаль...

Дзед бягом пусьціўся ў хату і засеў на печы. Хутка ад грымотаў задрыжэла нават печ. З вокнаў шыбы павысыпаліся.

— Дзын-н-н! Дзын-н-н!—зьвінела кволае шкло.

— Ня ўседзіш тут!—прамармытаў ён.—Лепш перачакаю ў яме за гумном...

Яма была сухая—жоўты пясок. Дзед прытуліўся да зямлі.

— Бах! К-р-р-р! Ба-а-а!

У яме зямля абсыпалася.

— Мэ-э-э! М-м-мэ-э-э!—крычала цялушка ледзь не чалавечым голасам.

Дзед высунуў галаву з ямы. Цялушка пабрыквала па дварэ ў нейкай няпрытомнай радасьці.

— Цёл-цёл-цёл!—клікнуў дзед.

Цялушка прыбегла да яго і глядзела на дзеда спалоханымі вачыма.

Па дарозе гарцавалі казакі. Бегам сьпяшылася пяхота. За імі ўздагон з грукатам ірваліся гранаты.

Вунь зваліўся з каня казак. Падаючы, лавіў рукамі паветра.

— Ой, ой! Во-о-о-о-о!—крычаў і войкаў другі паранены каля хлява.

Стары прытуліўся да сьценкі ямы.

— Шу-у-у! Жах-жах! жах-жах!

Да ямы дакаціўся густы дым. Дзед зірнуў угару. Над ямай ляцелі іскры. Пучкі старой гаручай саломы, нібы вогненыя птушкі, імчаліся над будынкамі.

— Канец сьвету... канец сьвету...—мармытаў дзед.

У гэтым „канцы сьвету“ ён адчуў для сябе ўцеху. Спакойна чакаў.

Зноў высунуў галаву з ямы.

Гарэла вёска. Платы былі параскіданы і па гародах гарцавалі казакі. Ляжалі забітымі некалькі коняй. А вунь курчыцца ў апошніх уздрыгах чалавек. Блішчаць пад пажарышчам яркія лампасы на яго нагавіцах і дзеду здаецца, што нагавіцы гараць.

А вось з нейкім шалёным посьвістам нешта грукатнула над самай галавою дзеда. Абсыпалася яма. Дзед да пояса апынуўся ў зямлі. Стала горача ў правай руцэ.

З рукі лілася цемнаватая, клейкая кроў. Адарвала два пальцы. Яны ляжалі водаль—бурыя з чорнымі пазурамі...

— Як я цяпер буду працаваць?—мільганула ў думках.

* * *

Стары да таго быў аглушаны грукатаньнем, што болю не адчуваў.

Дым ад пажарышча быў густы, клубіўся разам з чорнай зямлёю і жоўтым пяском ад вырытых знарадамі глыбокіх ям. Сонца было закурана і ў паўдні яно, нібы на захадзе, сядзела ў небе цёмна-малінавай кружалкай.

Дзед прывык і да стукату. Ён спакойна глядзеў на бярозу, на якой вісеў Мэндаль і пазіраў удаль, як пільны дазорца.

Раптам граната разарвалася над самай дзедавай галавой. стукату ён ужо ня чуў. Мэндаль сунуўся на яго разам з бярозай.

— Мэ-э-э!—чуў ён, нібы праз сон жаласьлівы голас цялушкі.

* * *

Як нямецкія жаўнеры закалолі цялушку на абед дзед ужо ня бачыў. Вочы яго былі вытарашчаныя, шкляныя, як у Мэндаля. Бародка яго склеілася ад крыві.

Дагарэлі галавешкі пажарышча.



**Рамонт комбайнаў у саўгасе „Дынама“.**

В. ВЕРЫЧАЎ

# Ваенна-хэмічнае навучаньне

## грамадзянскага насельніцтва*)

*Фото Мазэлева*



**Асоавіахімаўскі атрад на паходзе.**

Тое становішча, што ў сучаснай вайне тыл мае вялізарнае значэньне,—не патрабуе асаблівых довадаў. Даволі сказаць, што мобілізацыя арміі, прамысловасьці і транспарту, згрупаваньне войск, іх разгортваньне і далейшыя перасоўваньні, неабходныя для выкананьня опэрацыйных плянаў, падрыхтоўка папаўненьня забесьпячэньня арміі харчамі, знаражэньнем і боепрыпасамі, эвакуацыя і лячэньне хворых, раненых і газаатручаных, падтрыманьне бадзёрага духу ў краіне—усё гэта цалкам залежыць ад таго, наколькі забясьпечана тылу магчымасьць адносна спакойнай і плянамернай работы. Парушэньне гэтых плянамернасьцяй няўхільна прыводзіць да правалу опэрацыі на фронце, да дэмаралізацыі ўсёй краіны ўцалку, і, такім чынам, да пройграньня вайны.

Таму натуральна, што з пачаткам ваенных дзеяньняў супраціўнік прыкладзе ўсе намаганьні для зрыву работы тылу і перш за ўсё для скоўваньня дзейнасьці чыгуначных вузлоў, партоў, прамысловых раёнаў і буйных заселеных пунктаў, якія зьяўляюцца вайсковымі і адміністрацыйнымі цэнтрамі. Інакш кажучы, тылу, які мае ваеннае, экономічнае і палітычнае значэньне. Натуральна, што для гэтых мэт супраціўнік скарыстае ва ўсю шырыню сваю авіацыю і хэмію атрутных і запальваючых матэрый.

Здольнасьць сучаснай авіацыі якая мае вялікую грузападёмнасьць, вялікі радыус дзеяньня ў спалучэньні з хэмічнымі сродкамі змаганьня ставіць пад непасрэдную небясьпеку паражэньня ня толькі прыфрантовыя раёны, але і глыбокія тылы.

Тэмпы разьвіцьця хэмічнай прамысловасьці ў капіталістычных краінах пасьляваеннага часу значна перавышаюць тэмпы росту іншых галін народнай гаспадаркі. Сучасная сусьветная хэмічная прамысловасьць па сваёй магутнасьці ня менш чым у тры разы перавышае даваенную, нават той сусьветны крызіс далёка менш зачапіў яе, чым іншыя галіны прамысловасьці, што тлумачыцца вялікімі субсыдыямі, якія выдаюцца ўрадамі на падтрыманьне хэмічнай прамысловасьці, важнай у ваенных адносінах.

Прапанова савецкіх дэлегацый аб сапраўдным разброеньні і аб зьнішчэньні ўсіх ваенных хэмічных запасаў, спэцыяльна ваенна-хэмічных знаражацельных станцый і ўстанаўленьне кантролю над усей хэмічнай вытворчасьцю, неабходнага для хэмічнай барацьбы, сыстэматычна адвяргаюцца дэлегацыямі капіталістычных краін. У той-жа самы час у асноўных капіталістычных краінах самым інтэнсыўным чынам вядзецца навукова-дасьледчая праца ў вялізарнай сетцы навукова-дасьледчых хэмічных інстытутаў, лябораторый і полігонаў, з мэтай вышуканьня найбольш дзейнічаючых баявых хэмічных матэрый. І ўжо да сёняшняга дня вялізарная хэмічная прамысловасьць можа выкінуць у часе вайны на палі бою сотні тысяч тон рознага роду баявых хэмічных матэрый. Як прыклад, погляд на ўжываньне хэмічных матэрый мы можам прывесьці артыкул генэрала Л., апублікаваны ў офіцыяльнай французскай газэце „Франс Мілітэр", у якім разьбірае пытаньне аб тым, ці абавязвае Жанэўская конфэрэнцыя Францыю да няўжываньня хэмічных сродкаў, калі гэтыя сродкі ўжыты на ўласнай тэрыторыі.

„Хто можа забараніць нам, французам, гаспадарам уласнага дому, ужываць атрутныя матэрыі на ўласнай тэрыторыі. Хто можа забараніць нам, калі мы будзем прыкрываць, скажам трыста км нашай граніцы 20 дывізыямі, падтрымліваць абарончую дзейнасьць гэтай дывізыі шляхам заражэньня нашай уласнай тэрыторыі.

Калі супраціўніку не падабаецца кепскае паветра на нашай тэрыторыі, то ён можа ісьці сабе дамоў, мы яго не запрашалі".

Вось пункт погляду французскага генэрала, пункт погляду офіцыяльнай французскай вайсковай газэты.

ПЗША лічуць, што хэмічныя сродкі змаганьня зьяўляюцца найбольш „гуманнымі" на вайне, а таму няправільна іх забараняць, іх трэба наадварот шырока ўжываць.

І так наш клясавы вораг гатоў і вытворча і тэхнічна, і тактычна, і организацыйна да таго, каб хэмічныя сродкі ўжываць з першых-жа дзён.

Адсюль з дастатковай выразнасьцю вырысоўваюцца тыя жудасныя пэрспэктывы, якія чакаюць мірнае насельніцтва ў няўхільных будучых узброеных сутычках, калі зараз-жа ня будзе праведзена адпаведная організацыя абароны і навучаньне грамадзянскага насельніцтва.

Работа ў галіне будаўніцтва хэмічнай абароны, як і ўсёй абароны краіны, праводзіцца яшчэ ў мірны час з тым, каб з першага дня ўжываньня хэмічнай зброі супраціўніка супроцьпаставіць яму магутную хэмічную абарону.

Для ўмацаваньня хэмічнай абароны яшчэ ў мірны час неабходна:

*) Ад рэдакцыі. У далейшым мы азнаёмім чытача з тэхнічнымі сродкамі ваенна-хэмічнай справы і іншых відаў зброі.



**Праца на вытворчасьці ў супроцьгазах.**



**Пераноска „раненых".**

**Дэгазацыя.**



**Праца на вытворчасьці ў супроцьгазах.**



**Сувязістка.**



1) навучыць ваенна-хэмічнай справе людзкія кадры, тым самым дапамагаючы накапліваньню контынгентаў для рабоча-сялянскай Чырвонай арміі;

2) разьвіваць пэўныя галіны народнай гаспадаркі, падводзячы экономічную базу пад усю сукупнасьць мерапрыемстваў па хэмічнай абароне;

і 3) разьвіваць навукова-дасьледчую, вынаходніцкую і конструктарскую дзейнасьць у галіне хэмічнай абароны.

Пераходзячы да больш дэтальнага разгляду пытаньняў зьвязаных з ваенна-хэмічным навучаньнем розных груп насельніцтва, перш за ўсё хочацца спыніцца на падрыхтоўцы спэцыялістау інжынэраў, тэхнікаў, экономістаў, плянавікоў і мэдпэрсаналу.

Хэмікі вытворцы, павінны быць знаёмы з тэхнолёгіяй АМ *), і з пераводамі таго ці іншага прадпрыемства для выпрацоўкі продуктаў ваеннага часу, адсюль у програмы ДНУ неабходна ўключыць курс тэхнолёгіі хэмічных сродкаў барацьбы.

Будаўнікі, павінны ведаць утварэньне абарончых ад АМ пабудоў і прыстасаваньне існуючых пабудоў у заселеных пунктах пад рознага роду прытулкі.

Экономісты і плянавікі павінны ведаць пытаньні ваенна-хэмічнай справы ва ўсёй яе глыбіні, што дазволіць гэтым асобам праводзіць правільную політыку ў галіне ўвязкі ваеннай хэміі з напрамкам разьвіцьця мірнай прамысловасьці з інтарэсамі— усёй народнай гаспадаркі.

Ніжэйшы тэхнічны пэрсанал павінен быць таксама азнаёмлены з ваенна-хэмічнай справай і падрыхтаваны да ўдзелу ў работах па сваёй спэцыяльнасьці ў інтарэсах ваенна-хэмічнай справы.

І нарэшце, мэдыкі, павінны яшчэ ў мірны час умець даваць мэдычную дапамогу пацярпеўшым ад АМ, для гэтага ўсе дактары павінны быць добра знаёмы з тэксыхолёгічнымі ўласьцівасьцямі АМ, сродкамі і спосабамі іх ужываньня і абароны ад іх.

Навучаньне шырокіх слаёў грамадзянскага насельніцтва павінна праходзіць па лініі Асоавіахіма. Асоавіахім. праводзячы масавую работу ў галіне ваеннай хэміі, організуючы ваенна-хэмічныя гурткі, габінэты, клясы, куткі, гарадкі і нарэшце навучальныя пункты, дзе павінны быць згрупаваны ўсе навучальныя дапаможнікі, экспонаты і апошнія ўзоры хэмічнай зброі і абароны, знаёміць шырокія слаі працоўных (галоўным чынам дапрызыўныя ўзросты) з хэмічнай зброяй (баявыя хэмічныя матэрыі, тэхнічныя сродкі хэмічнага нападу і абароны) і абаронай ад яе, навучае асьновам хэмічнай дысцыпліны. Пры гэтым павінен быць зьнішчаны закаранелы ў шырокіх слаях грамадзянскага насельніцтва погляд, быццам хэмічная зброя—самая страшная зброя. Кожная зброя страшная да таго часу, пакуль людзі ня могуць уясьніць сабе дзеяньне данай зброі і недастаткова ўмела карыстаецца сродкамі абароны ад яе.

Мэтады навучаньня. Навучаньне ваеннай хэмічнай справе, як адзначалася, павінна праводзіцца спэцыялістамі-хэмікамі актывам Асоавіахіму і вайсковымі работнікамі. Кожныя такія заняткі павінны як правіла спалучаць у сабе расказ з паказам. У вёсцы для навучаньня неабходна скарыстаць дэмобілізаваных чырвонаармейцаў. У справе навучаньня адну з рашаючых роляй адыгрывае наш друк, які да сёняшняга дня даволі дастаткова зьмяшчае матэрыялаў, здольных даць больш ці менш поўнае ўяўленьне аб асновах хэмічнай барацьбы. Мэтам навучаньня павінны таксама дапамагаць даклады—спэцыялістаў, популярныя лекцыі, кіно-фільмы ваенна-хэмічнага зьместу і г. д. і г. д.

Пачынальнікам ваенна-хэмічнага навучаньня, ліквідацыі ваенна-хэмічнай няпісьменнасьці сярод шырокіх слаёў грамадзянскага насельніцтва павінна быць наша моладзь, у асаблівасьці комсамол. Ведаць, што прадстаўляюць сабой баявыя хэмічныя матэрыі і якія спосабы іх ужываньня на вайне, умець карыстацца індывідуальнымі сродкамі абароны (супроцьгаз, абарончы касьцюм), умець выкрыць заражаную мясцовасьць і ведаць спосабы яе дэгазацыі павінен у абавязковым парадку кожны грамадзянін СССР.

Разам з пытаньнем навучаньня павінна быць узьнята пытаньне ва ўсю шырыню і аб забесьпячэньні насельніцтва індывідуальнымі сродкамі абароны (супроцьгаз), аб гэтым павінны паклапаціцца асоавіяхімснаб.

За вучобу, за ўкараненьне ваенна-хэмічных ведаў у гушчу грамадзянскага насельніцтва, за хэмічную дысцыпліну.

Не страшны газ, калі ёсьць супроцьгаз і ўменьне ім карыстацца.

*) Атрутных матэрый.

**Заняткі на курсах па падрыхтоўцы інструктароў СПА па рабоце на вёсцы.**



КЛІМ ГРЫНЕВІЧ

# Клясавая вайна

Эўропа накрылася чорнаю рызай
На каторай—
псалтыр;
Пад каторай—
мячы.
Над ёю ў маленьнях
стаіць папа рымскі
І... ціха малітву бурчыць...

Ён веру згубіў у свае прароцтвы
І выманіў іх
да дна...
Адзіная дарога да чалавечага
Росквіту
Па ягонаму—
... вайна.

Ён даўно гэта ўпотай меціў
(трымаючы крыж цішком...)
„На вежах Масквы неравесіць
усіх
бальшавікоў..."

Што-ж...
Памалецеся папа рымскі
хаця вам-бы
пара спачыць...
... Крызысу шторм
Разрывае рызу
З-пад якой заблішчэлі—
штыхі
і мячы...

З-пад якой—
уздымаюцца арміі,
Бамбамёты
руйнуюць Кітай...
Малецеся папа за
здароўе імпэратараў,
камандыруйце
растраляных
салдат
у рай...

Малецеся за—
„росквіт чалавецтва"
За—
разбурэньне:
партоў і гарадоў.
Гэта вам выгада разумееце,
Забвеньне ад крызісу на некалькі гадоў...

... І вось пачынаецца вайна
Па рэйках бягуць
эшалёны гранат...
... Дзікія эскадры браненосцаў
выпалілі трапны залп...
ў даліне Янц-зы—
Косьці
Растраляных салдат...

У даліне Янц-зы—
маці
цалавала ў вусны сына
сын яе быў салдатам
арміі генэрала
Су-Хань-Міна...

Ён наступаў на чырвоных
строга трымаўся загадаў.
Быў ён грузчыкам
у Ханькоу
Разам з малодшым братам...
Цалавала ў вусны сына
і плакала доўга маці
усхліпвалі
агнямі
сінімі
ружэйныя залпы акупантаў.

А з-за плыннай Янц-зы
Уздымаўся атрад чырвоных...
І маці спазнала:
... малодшы сын!
І сэрца аблівалася кроўю...

Маці шукала згадак,
думак
імклівіў
бег...
... старэйшаму трупу-сыну
кінула кпін націньне:
— Ты наступаў
на брата
Такая і сьмерць табе...

На гарады і сядзібы
уздымаюцца арміі,
Бамбамёты
разьбіваюць Кітай
Малецеся папа за здароўе
імпэратараў
Камандыруйце растраляных
салдат
у рай...

Толькі вашы малітвы даўно растаптаны
Нагамі цяжкой
хады...
За ракою Янц-зы чырвоныя
Вызваляюць усё новыя гарады...

Над Кітаем—
рэвалюцыі полымя,
Гартуецца кітайскі
пралетарыят...
Разьметаецца пацёртаю саломай
малітва твая
вар'ят!

І нязбудуцца твае казаньні
Не дапаможа псалтыр:
Разаб'е твае „пастар" пляны
Чырвоны адвостраны штых.

Чырвоныя сьцягі
разьвіюцца на ветры
Вашы салдаты ня выпусьцяць
кулі ў нас...
Гэта з вашай вайны заветнай
Выбухне грамадзянская
вайна.



Пракладка трамвайнай лініі на Ляхаўцы.



„Напор“. Акт 1. Пакой Чыжа

# БДТ 2

Сэзон 1931—32 г. Беларускі 2-гі Дзяржаўны Тэатр працаваў у Гомелі і Магілеве. Праца тэатру ў гэтым сэзоне ішла па шляху замацаваньня і паглыбленьня тых ідэёвых пазыцый;

(„Першая Конная“, „Качагары“),

якія ён вызначыў у папярэднім сэзоне 1930—31 г. Тэатр ішоў пад знакам напружанай барацьбы за стварэньне нацыянальнага пралетарскага рэпэртуару, стварэньне і выхаваньне ўласных акторскіх кадраў, авалоданьне навуковым мэтадам Маркса-Леніна, дыялектычным матарыялізмам, у змаганьні за тэхнічную рэканструкцыю тэатру. У некаторых з гэтых галін дасягнуты значныя посьпехі, у некаторых-жа зроблена вельмі мала.



Аўтар „Напора“ А. Александровіч і мастацкі кіраўнік БДТ-2 рэжысэр А. Міцкевіч.

За час прабываньня ў Гомелі і Магілеве тэатр паставіў дзьве пьесы: „Напор“ А. Александровіча і „Вясну“ Ільлінскага.

„Напор“ (пастаноўка Міцкевіча, мастак Кісялёў, музыка Шэншына) паказвае ролю і месца камсамолу ў вытворчасьці, паказвае канкрэтных ударнікаў—барацьбітоў за прамфінплян, за ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады.

„Вясна“ (пастаноўка і мастацкае афармленьне украінскага рэжысэра Л. Кляшчэева, музыка дырыжэра БДТ2 Маркевіча) паказвае клясавую барацьбу на



„Напор“. Апошні акт Сонца-вылазка

вёсцы, барацьбу за серадняка ва ўмовах ужо арганізаванага, але яшчэ ня зусім гаспадарча ўмацаванага калгасу.

Апрача гэтых дзьвюх п‘ес тэатр мяркуе паказаць у бліжэйшы час п‘есу В. Сташэўскага „Амэрыка“.

„Амэрыка“ паказвае крызіс ладу капіталістычных краін. На фоне сусьветнага эканамічнага крызісу п‘еса паказвае маральна-этычнае загніваньне капіталістычнага грамадзтва, ролю сацыял-фашыстаў і барацьбу пралетарыяту за свае правы. П‘еса прысьвячаецца тэатрам Міжнароднаму рабоча-тэатральнаму руху.

Бязумоўна, усе свае рэпэртуарныя меркаваньні, іх пастановачныя трактоўкі, а таксама ўсю работу над выпраўленьнем дапушчаных тэатрам у яго працы памылак, тэатр будзе праводзіць ня інакш, як пры шырокім удзеле ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

У часе веснавой сяўбы 1932 г. тэатр паслаў у калгасы 2 брыгады складам па 10—12 чалавек кожная. Гэтыя брыгады за два тыдні свае працы правялі вялічэзную грамадзка-палітычную і грамадзкую працу, мабілізуючы ўвагу калгасьнікаў на найлепшае завяршэньне сяўбы.

Брыгада абслужыла да 50 калгасаў, рабіўшы 32 выступленьні, пабудавала 9 сцэн, выпушчаны насьценгазэты, праводзілася вайсковая праца, гутаркі на тэму апошніх пастаноў партыі і ўраду пра сельскагаспадарчы падатак, калгасныя базары і інш.

У сэзоне 1931-32 г. пры тэатры стала працавала школа для навучаньня і падрыхтоўкі акторскіх кадраў для БДТ2.

Склад гэтага „Тэафабзавуча“ даходзіў да 22 асоб. Выкладалася: тэхніка сцэнічнага мастацтва, штукарства імправізацыі і пастаноўка голасу, грым, акрабатыка і інш. Уся праца „Тэафабзавуча“ была шчыльна ўвязана з усёй бягучай вытворчай працай тэатру. На аснове вопыту мінулага сэзону тэатр мяркуе ў далейшым гэты

бок працы яшчэ больш
У галіне працы над
нінскай мэтадалёгіяй тэа
што было ў яго магчы
даньні гэтым тэатр змож
партыі і пралетарыяту ў
неньні, у змаганьні за са

Нарэшце, адным з са
атру—тэхнічная рэканстр

БДзТ2, як і іншыя тэ
недахопу кваліфікаваны

няма бутафораў, краўц
раў, адміністратараў і ін
арганізм тэатру.

Пытаньням забесьпяч
матар‘яламі і мануфакт
не надалі належнай ува
ных і колькасных паказ
на прамфінпляне тэатру

З недахопаў тэатру ў
адзначыць невыстарчалі
дачом. Было шмат вып
на заводы толькі з пры
культпрацаўнікоў паасо
прычыны неарганізаван
кіх арганізацый тэатру.

Пастаноўкай п‘есы „Н
бадзёры жыцьцярадасн

У пяршыню на сцэне
станоўцы гэтай п‘есы з
надворнага афармленьн
тага надзвычайна ўплы
якому ў нас яшчэ адво

лыбіць і ўдасканаліць.
оданьнем марксыцка-ле-
е зрабіў яшчэ ўсяго,
цях. Толькі пры авало-
таць сапраўднай зброяй
ганьні за новыя дасяг-
аўніцтва.

вузкіх месца працы тэ-
ыя.

БССР задыхаюцца ад
драў, тэхскладу тэатру:

Асноўная труднасьць пры пастаноўцы гэтае п'есы была ў пераводзе ўсяго матар'ялу (ідэйны зьмест рэжысэрскі момант і інш.) у плястычную форму і матар'ял.

П еса напісана так, што пры афармленьні абавязкова патрабуецца стварыць моманты настрою ці „состояния“, якія вынікаюць з зусім конкрэтных вобразаў напр.: зіма, вясна, вада і г. д.

Адначасна п'еса пабудавана так у сэнсе пасьлядоўнасьці фактаў, што чарга эпізодаў супроцьпастаўлена надворнавобразнай пабудове, настрою пануючаму ў іх, тэматыцы. Але часта пры гэтым супроцістаўленьне чыста мэханічнага парадку, ня выклікана неабходнасьцю з папярэдняга. Згублена фабульная лінія і ідэйны стрыжань ня стаў каркасам для пабудовы ўсяе рэчы. Гэта бязумоўна мінусы п'есы.

Труднасьць зрабіць мастацкі цэльны паказ упіраецца ня толькі ў перамогу супроцьстаўленьняў у тым сэнсе як напісана вышэй, але і ў тым, каб перамогшы іх, захаваць вершаваную форму, якая опэруе з конкрэтнымі рэчамі. Да недахопаў п'есы трэба аднесьці таксама тое, што канкрэтныя ідэі, канкрэтныя настроі часта пабудаваны толькі на ўспрыйманьні (зрокавым), часта сам зрокавы вобраз надае сэнс эпізоду (сонца—вылазка).

Адзначаючы некаторыя хібы „Напора“ як п'есы, трэба адзначыць у той-жа час, што п'еса мае і шэраг дадатных бакоў: гэта ідэйна-клясавая накіраванасьць, пазбаўленьне ад элемэнтаў схэматызму, які часткова можна было назіраць у ранейшай творчасьці аўтара, пэўнае аваладаньне драматургічнымі прыёмамі.

Пастаноўкай „Напора“ трэба лічыць, што тэатр робіць значныя зрухі ў галіне перамаганьня і ўходу ад штампу. Добра тое, што тэатр сьмела робіць



„Напор“. Другі акт. Пакой Васілісы.

экспэрымэнты, шукаючы новых форм і мэтадаў свае работы. Нельга сказаць што на сёньня мэтад БДТ2 абсалютна верны. Навуковы мэтад Маркса-Леніна ня стаў грунтам творчага мэтаду тэатра, але тэатр імкнецца аваладаць гэтым мэтадам, у канкрэтнай сваёй працы карыстацца ім.

Тэатр імкнецца максымальна ўцягнуць гледача ва ўдзел у паказе, тэатр імкнецца з пасыўнага „созерцания“ атрымаць актыўнага супрацоўніка і памочніка ў стварэньні паказу.

Шырокае абгаварэньне творчага шляху, выпраўленьне памылак, замацаваньне дасягненьняў, дапамогуць тэатру ўзьняцца на якасна новую ступень. Кіраўніцтва партыі, сувязь з пралетарскай грамадзкасьцю, бальшавіцкая крытыка і самакрытыка—парука таго, што ўзрастуць яшчэ больш тэмпы ідэйнага і творчага росту тэатра.

М. А.

„Напор“.
Акт 1
Мітынг
дружбы.



арыкмахэраў, рэквізыта-
атэгорый, што складаюць

тэатраў будаўнічымі
кіруючыя арганізацыі
та вядзе да зрыву якас-
ў і балюча адбіваецца

не 1931—32 году трэба
сувязь з рабочым гле-
зрываў культвылазак
галавацяпскіх адносін
заводаў, а таксама з
і нягнуткасьці грамадз-

“ тэатр імкнуўся даць
аз.

рускага тэатру пры па-
ны вопыт вырашэньня
ы дапамозе колеру, гэ-
а эмоцыяльнага фактару,
ся мала ўвагі.

„Напор“
Другі акт.
Ліквідацыя
прарыву



На пляцоўцы, у трусіках, пад праменьнямі раньняга сонца, маршыруе лёгніцкі склад брыгады. Пасьля пад'ёму—паўгадзіны на фізкультзарадку.

Тут-жа побач, асьвяжаючы халодны душ...

Таварыш камісар цікавіцца:—ці ўсе вышлі на зарадку?

— Шафёры падкачалі... усьміхаецца голас дзяжурнага па часьці, а так—усе, як адзін...

Радзіст вывешвае сьвежыя радыёграмы, атрыманыя за ноч. Павары сьпяшаюцца са сьнеданьнем.

Арганізаванасьць жыцьця ў гарадку чырвоных лётнікаў дазваляе да таго часу, пакуль згатовіцца сьнеданьне, атрымаць чырвонаармейцам палітзарадку. Бачыце—клюб на адкрытым паветры. Чырвонаармейцы-лётнікі ўважліва слухаюць апошнія навіны з міжнароднага жыцьця. Адзін з іх чытае газэту. Сёньня якраз ён падрабязна спыняецца на прапановах амэрыканцаў на Жэнэўскай канфэрэнцыі...

Сьнеданьне гатова. Багаты калёрыямі суп смачна дыміцца на белых чыстых сталох прасторнай сталоўкі.

Пасьля сьнеданьня пачынаецца рабочы дзень. Вучоба, аўладаньне тэхнікай, палёты, дагляд машын. Часткі дзеляцца на зьвеньні і кожнае зьвяно мае сваё заданьне. Кожны лётнік, мэханік, матарыст, камандзір, чырвонаармеец змагаецца за значок „працы і абароны"—ударніцтвам ахоплена ўся брыгада.

Творчая ініцыятыва—на ўсіх вучастках жыцьця брыгады. Вось адзін з іх.

Спачатку думалі проста. Будзе свая ўласная майстэрня па рамонту псутага інструманту. Ініцыятыва чатырох была падтрымана камандваньнем і створаны ўмовы для працы. Але так было толькі спачатку. Творчая ініцыятыва чырвоных лётнікаў ня мае межаў. І вось сёньня майстэрня псутага інструманту вырасла ў майстэрню вынаходніцтва.

Сьветлы пакой майстэрні, энэргічныя постаці матарыстаў, лётнікаў і інжынэра настойліва дамагаюцца ўдасканаленьня існуючых прыбораў, вынаходніцтва новых. Прапановы тут правяраюцца, дэталізуюцца, удасканальваюцца і ў выніку цэлы шэраг уласных вынаходніцтваў надзвычай вялікай значнасьці. Гэта далёка не рамантыка, бо ўсё так рэальна, так проста. І на сёнешні дзень майстэрня вынаходніцтва мае сваіх савецкіх Татэнаў, Адэраў, Фэрбэраў, Блерыо, Сікорскіх. Усе яны маладыя энэргічныя, пытлівыя таварышы. Кожны ведае, якую вялікую і пачэсную работу выконвае ён для краіны Саветаў. Кожны з іх ня толькі пазнае, але і пераўтварае савецкую авіяцыю, як верны сын сваёй клясы.

Мадэлі канструкцыі вынаходцаў ахоўваюцца ў сьветлым пакоі майстэрні вынаходцаў...

Авіябрыгада мае сваю ўласную друкаваную газэту, мае вялікую колькасьць карэспандэнтаў. Рэдактар газэты таварыш Колас (у мінулым комсамольскі работнік і малады паэт, вершы якога друкаваліся некалькі год таму назад у „Савецкай Беларусі") вырас у статнага лётніка-рэдактара шматтыражкі. Створаны пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша камісара брыгады і Коласа літаратурны гурток узяў на сябе абавязак вялікага значэньня—удзельнічаць у напісаньні твораў пра гэроіку савецкай авіяцыі ў часы грамадзянскай вайны. Успаміны вэтэранаў-лётнікаў, чырвонасьцяжных гэрояў павінны стацца асновай гэтай пачэснай работы. Паказ новага чалавека, паказ гэроя лётніка сёнешніх дзён з яго новымі навыкамі, воляй, адносінамі да працы таксама хвалюе маладых пісьменьнікаў.

Іх запальвае, іх натхняе гэроіка лётнаба таварыша Калініна, які ў самы небясьпечны момант разам з лётнікам у часе пажару на самалёце пры палёце, выратавалі машыну і ўласнае жыцьцё. Спалучэньне неймаверцай сілы волі і высокай тэарытычнай падрыхтаванасьці закон савецкіх лётнікаў. І варта толькі ўдумацца, колькі патрэбна гэраізму і арганізаванасьці, каб здолець пагасіць полымя пажару на самалёце, будучы самім у вагні.

Іх запальвае, іх натхняе гэроіка камандзіра атраду лётніка таварыша Пятроўскага, які апынуўшыся ў часе палёту бяз руля вышыні, здолеў перапаўзьці з кабінкі лётніка ў кабінку наглядача і з яго кабінкі кіраваць самалётам...

Гэроіка ўсёй авіябрыгады перад стартам у Маскву на першамайскія ўрачыстасьці, пры абсалютна немагчымых умовах пад'ёму самалётаў з аэрадрома, вынаходніцтва і масавае ажыцьцяўленьне яго за адну ноч (што дала магчымасьць сваячасовага старту самалётаў) сапраўды гаворыць аб тых недасяжных вышынях, на якіх знаходзіцца сёньня наша Чырвоная Савецкая Авіяцыя.

Не рэкорсмэнства, не пагоня за нажывай, не імкненьне да славы, а суровая неабходнасьць клясавай пільнасьці, абароны краіны і барацьбы з клясавым ворагам зьяўляецца стымулам творчай ініцыятывы, сілы, волі, тэарытычнай падрыхтаванасьці савецкага лётніка.

Вечарамі, па начох на аэрадроме, таксама як і ўдзень,—ажыўленьне. Вячэрнія вучэбныя палёты, начныя палёты асвоены кожным пілётам авіябрыгады.

Гарадок чырвоных лётнікаў пульсуе жыцьцём гэраічнай вучобы.

Стыхія надземных прастораў сёньня ў моцных руках.

І ў любы момант, у любы час авіябрыгада імя пралетарыяту БССР пад выпрабаваным кіраўніцтвам свайго заслужанага камандзіра гатова стаць на абарону межаў Саюзу Рэспублікі.

Пра гэтае, апошняе, самае галоўнае прасілі напісаць чырвоныя лётнікі ў самы апошні момант, калі моцна паціскаючы рукі, мы пакідалі іх горад.



Ударная брыгада будаўнікоў колгасу „Чырвоны Бераг" Кармянскага раёну. *Фото Семенякі*

# КРУМ НА ПАЛЕСЬСІ

*(Нарыс)*

„А было ў той песьні сьпевы, як важкі боб.
А было ў той песьні бабылёва горачка“.

(З народнага).

## БРАВЫЯ БРАВУШЫ

Дзесяткі аголеных і загарэлых рук нахілялі яго галаву. На ўсю апошнюю сілу пружыніліся цягліцы ног, але скарыліся і адчувалі, як губляецца пад імі зямля, усланая гліцамі, як у бясьсільлі выпростваецца дужасьць, што ня мае ўпору.

Перад вачыма іскрыцца смала, налітая ў бомкую бочку. У смале гэтай затоена неспадзяваная і нечаканая сьмерць, жудасная і цяжкая і кароткая. Чалавек (яго ставяць на галаве і падымаюць над бочкай, адкінутыя валасы датыкаюцца да накіпелай смалы) душыцца ад наліву крыві і крычыць ад жудзі і спалоху.

— Што я?.. літасьці... міласьці... жыць...

Апошнія гукі захрасаюць у смале. А рот адкрыты для просьбы апошняе, раптоўна заплывае густой смалой і апошні аддых перарываецца на пачатку.

Сосны шумяць над чалавечаю сьмерцю. Стромкія сосны і такія-ж дубы. Густыя лясы без пратаптаных сьцежак, без сьлядоў. Купчастыя грабяні ляснога суплошча грызуць прысадзісты блакіт і грузна хістаюцца з боку на бок, як дзьве сустрэчныя хвалі.

Рос у лясох бандытызм, падымаўся ў гару, як пахмурыя бярэзіны сярод гушчарніку, і бурыў пабудаваныя хутаркі на палянах.

Атакоўваліся казацкія пасёлачкі, што будаваліся на Палескім збуі пад прыціхлым ветрам, пад маўклівымі сетказорамі. Казацкія пасёлкі прыехалі сюды, на Чачэршчыну, на палескія глімышчы—са стэпавых сёлаў Украіны. Прыехалі са сваёю беднасьцю, з нянавісьцю да рабаўнічага панаваньня куркулёўскіх сем'яў, абшарніцкіх маёнткаў.

Старажылыя лясуны-чачэрцы прыхільна спатыкалі прыехаўшых казакаў: усё больш людзей у лесе і сьмеласьці больш.

— Адкуль, бравушы бравыя?

— З Адэшчыны, з Кіеўшчыны... Як ненадзейных сюды паслалі, за лясы, каб ня бачылі прыгнёту панскага.

Але лясы не падзялілі іх. Бедняхі-казакі, бедняхі-чачэрцы бачылі і адчувалі як на Адэшчыне, Кіеўшчыне, па ўсёй краіне паласаваў панскі бізун. На сабе гэта адчувалі, пераносілі: цяжар панаваньня княгіні Безабразавай, што жыла каля Чачэрску, дзесятку іншых гандляроў мужычай доляй, дзесяткаў сваіх кулакоў, што арудвалі на Палешчыне.

Бліжэй да рэчкі, маленькай і плыткай рэчкі, мясьціліся будовелькі і цiснуліся адна да другое. З барачных сьляпенькіх халупак на мурашчыных пакупнях вырасла вёска Казацкія балсуны.

## СЛУЖБА КАЛПІДЫ

Моцную сьцену прабівалі.

Прабівалі сьцяну кулацкай хлусьні, антысавецкай дзейнасьці, рэшткаў бандытаўскіх збродняў.

Калгасьнікі на Палешчыне зараз гавораць:

— І што было-б з нас, каб ня кіравала намі партыйная ячэйка з раёну, з гораду?

— Было-б тое, што кулацкая сьцяна насоўвалася-б. Было-б тое, што лёс гэты ня рос-бы, а гнаіўся-б.

Сьцяна варожасьці была моцнай.

— Кулакі скарыстоўвалі ўсе сродкі, на ўсіх вучастках перашкаджалі новаму наступленьню працоўнага сялянства Палескага сельсавету—правядзеньню калектывізацыі.

Помніцца калгасьнікам, як вечарамі на Калпідзе пачынаўся крум. Крумам тут называюць шумныя вечары з залівістым квактаньнем жаб, з ціхай плыньню вады ў рэчцы Калпідзе.

Калпіда плыла сярод берагоў, зарослых чаротамі і плюшнікам, кусточкамі і муравай-травой.

Калгасьнікі з новага Палескага калгасу, былыя бедняхі, лепшыя серадняхі, украінскія перасяленцы з Казацкіх балсуноў—упраўляліся на сенажаці. Сенажаць двума шырокімі крысамі цягнулася вакол аксамітнага шнурка Калпіды. На паплавох станавіліся, як шапкі на галовах, завершаныя стагі радобадзь узрошчага і высушанага сена. На пакацістых берагох, як кашлатыя гусі з падагнутымі пад сябе нагамі, сядзелі шырокія копы.

Посьпехі калгаснай касавіцы ўзьнепакоілі кулаччо. Кожны новы дзень асядаў на паплавох новымі стагамі сухога зялёнага сена.

І каб ня было тэй ночы!

Нехта загрузіў Калпіду калгасаўскім сенам, наваліў на яе спакойныя воды тоны зялёнай харчы. Пацяжэў вадзяны плыў і панёс на сабе цэлыя копы, па-крысе чапляючыся імі за ўзьбярэжныя прысадкі.

А як толькі даведаліся пра гэта здарэньне калгасьнікі, адразу-ж прыбеглі да сакратара партыйнай ячэйкі Кароткага.

— Калпіду сенам нашым загацілі,—гаварылі наперабой,—палова травы сплыла. З чым на зіму заставацца?

Сакратар партыйнай ячэйкі таварыш Кароткі, старшыня сельсавету—дэмабілізаваны чырвонаармеец, усе члены Палескага калгасу балюча рэагуюць на новы варожы выпад, на новую кулацкую дзейнасьць.

Старшыня першага пададдзяленьня калгасу суцішае тугу па харчох. Вочы ягоныя яснымі цурочкамі прабіваюцца праз шкло акуляраў, акоймленых белымі віточкамі і на пераносіцы змацаваных ніткамі.

— Можа хопіць і таго, што засталося. Можа хопіць. А яшчэ пабольш сіласу. А яшчэ на сенажаці падкосім больш ды ўвартуем усё. Вось і хопіць.

Зноў узяліся калгасьнікі за косы, за граблі, за вілкі. Дрэнную службу саслужыла Калпіда ім. Але і яе калгас бярэ ў абарот, штогод спускаючы па ёй тысячы клейняў загатоўленага лесу ў гэтых вялікіх лясох.

На палёх раней распрацаваных дзялянках—яшчэ спарней закіпела работа. На сталыя вучасткі пасеўнай зямлі калгас прывёў плугі, сявяркі і малатарні,—сталыя вытворчыя брыгады.

Зямля галасуе за трактар!



Клёпка касы у час сенаўборкі.



**Апырскваньне фруктовых дрэваў у саўгасе.**

## НЕБЯСЬПЕЧНЫЯ ФОКУСЫ

Як кажуць, вясну бралі за бокі. Сёлетняя вясна прышла на палі калгаскія з шчырай цяплынёй і цупкімі сонцавамі промнямі. Зямля ўспацела ад гарачай вясны і прэла пад яе зелянёвымі веямі. Насеньне, сабранае ў сьвірнях прасілася на ральлю.

У калгасе трэба было асабліва ўмела расстаўляць рабочую сілу. Калгас акрамя жывёлагадоўчага ўхілу, павінен мець яшчэ і лясную спэцыялізаванасьць. Да рэчы, яна яшчэ зусім слаба тут вырашана. Аднак, было ўжо зразумела, што частка калгасьнікаў павінна працаваць на палёх, частка—на лесасеках, на вывазцы загатоўленага бярвеньня.

Калгасьнікі сабраліся на сход, на першы сход па абмеркаваньні плянаў сяўбы. Гэта было яшчэ ў маразы, калі шэрань густымі маністамі зьвісала на лясох, калі сьнежныя завірухі прабягалі па-за загуменьнямі і шматавалі стрэхі, як белыя пругкія косы. Клюб, прасторны і гулкі, пабудаваны зусім нядаўна, поўніўся гучнымі галасамі, сьцішанымі гутаркамі і ледзь чутнымі перашоптваньнямі па кутках. Нават па ступені чутнасьці гутарак было відаць, што сабраліся ў клюб ня ўсе з аднолькавымі думкамі, ня ўсе аднолькавыя, ня ўсе адзіным жаданьнем аб плоднай і ўраджайнай вясьне.

Гэта было паказана вельмі навочна. Пасьля інфармацый партыйнай ячэйкі і сельсавету пра сяўбу, трэба было паставіць пытаньне на абмеркаваньне, вырашыць пытаньне з усімі калгасьнікамі.

Першым на сходах заўжды быў Панас. Панас—замажнейшы дзядзька. Ці па добрай волі, ці з патайнымі думкамі пайшоў у калгас ён—сьпярша было зусім невядома. Аб яго-ж добрых намерах у бок калгасу прыходзілася сумнявацца.

Панас узьлез на сцэну, да прэзыдыуму.

— Сеяць як вы будзеце?—пытаўся і ўсьміхаўся Панас.— У нас-жа ў калгасе сабраліся: то мясьнік, то лясьнік, то фокусьнік.

Панаса падтрымлівалі з куткоў, па клюбе пракаціўся задзёрысты сьмех, штучны і вымушаны.

— То мясьнік, то лясьнік, то фокусьнік,—паўтарыў Панас.— А хто сеяць будзе?

Штучны і вымушаны сьмех зноў шавяльнуў плякаты.

— Правільна Апанас мовіць.

— Гэ-ж... фокусьнікі адны толькі тут.

Апанас бачыў, як расла да яго сымпатыя з боку „сваіх" людзей за тое, што ўмеру і трапна сказаў, што іх думку выказаў. Але бачыў Панас мноства пар вачэй, што затаілі ў сабе ад яго слоў нейкую прыкрасьць да выслуханага і нейкую злосьць. Вось гэтыя вочы пужалі Панаса і страшыўся ён іх, уздрыгнуў, калі з лаўкі падняўся партыец Балсун.

Балсун першым ня вытрымаў панасавых „фокусаў" і бойка, ня спыняючыся, загаварыў:

— Шкада, Апанас, што ня было хустачкі сьлёз уцерці. Ведаем, мы, бednякі, што не па нутры табе калгас, ды і нутро ісьці ў яго табе не дазваляла. Але ты надужаў.

Успомніў Балсун, самы бедны на сяле раней, самы актыўны калгасьнік зараз, пра моцную панасаву гаспадарку, пра яго вечныя дапіканьні і сьмешкі з калгаснага.

— Гэта ты небясьпечны фокусьнік—паказвае Балсун на Панаса.—А калгас будзе жыць!

Яго словы пакрываюцца бурнымі воплескамі. Гэта калгасная салідарнасьць большасьці, што знаходзіцца ў клюбе, гэта думкі сотняў балсуноў.

Пад шумам і шэптамі падымаецца звонкі жаночы голас.

— Хлеба не хапае. Есьці хутка ня будзе чаго.

— А ты ў калгасе, Аўдоцьця, працавала?—пярэчыць жанчыне.

У калгасе Аўдоцьця не працавала, хоць і была калгасьніцай. Цёмную, яе пацягглі да сябе кулакі:

— Ідзём да нас жыта жаць. Што там у тваім калгасе, а ў нас хлеб атрымаеш.

Аўдоцьця была бядлячкай, але беднасьць не навучыла яе. Пакінула яна працу ў калгасе і пайшла на кулацкія хутары. А калі разьмяркоўвалі ўраджай, Аўдоцьця з голасам прыбегла да старшыні калгасу:

— Даражэнькі, даруй. Але і хлеба дай.

Сход падзяляўся на дзьве сілы. І сход паказаў, з кім прыдзецца выяжджаць на поле, з кім трэба змагацца, каго перавыхоўваць і настойліва перацягваць на свой бок.

Гэта было яшчэ ў маразы, калі белая шэрань зьвісла з кучаравых галін, калі сьнежныя веі калашмацілі саламяныя стрэхі і разам з ганьнямі ваўкоў рассыпалі па лясох свой жудасны вык.

## СЬЦЯНА РУШЫЦЦА

У калгасе вялі жорсткі бой з някультурнасьцю. Калі пабудавалі ў сяле клюб, у яго ніхто не пайшоў.

— Гэта бязбожнае нешта.

— Боязна хадзіць у гэтыя белыя стадолы.

Сходы праводзілі ў курных хатках, а клюб пуставаў і сумна ўглядаўся ў лясныя далечы. Але ў курных хатках упарта агітавалі за клюб і клюб пачалі наведваць.

Пабудавалі ў сяле і сямёхгодку. Але кулак і сюды пралез і тут арудваў.

У кулака Пракопчыка кватэравалі вучні са школы. Калі яны вярочаліся дамоў пасьля заняткаў, Пракопчык ласкамі, лісавымі пяшчотамі і просьбамі прымушаў іх маліцца, чытаць эвангельле, атручваў дзіцячую сьвядомасьць.

У маёй хаце пра калгасы ня чытаць,—гразіў Пракопчык і, паніжаючы голас, прасіў—вы ў школе таксама супроць калгасаў гаварыце. Супроць пазыкі агітуйце, бо яна таксама на калектывізацыю йдзе.

* * *

У зялёным дыме стаяць зараз лясы на Палешчыне. Праз спрадвечную цемру, беднасьць і дзікасьць вырываецца на паверх новае жыцьцё—калгаснае жыцьцё. У муках, у жорсткіх клясавых бойках нараджаецца яно і заваёўвае права, права існаваць і жыць. Кожным крокам разьбіваецца кулацкая дзейнасьць.

У зялёным дыме стаяць зараз лясы на Палешчыне. Сталыя калгасныя брыгады працуюць на лесасеках, на вывазцы загатоўленай драўніны; сталыя калгасныя брыгады ўбіраюць сацыялістычны ўраджай, вядучы барацьбу са стратамі, за ўшчыльненыя тэрміны. У пшанічным цьвеце стаяць палескія палі і растуць на загонах стагі вырашчанага рукамі калгасьнікаў хлеба.

З радасным шумам плыве зялёная Калпіда, у берагох з чаротамі і плюшнікам, кусточкамі і мурагом. Плыве па Калпідзе лес, сотні клейняў плывуць да будоўляў, гоняць іх калгасныя брыгады, лепшыя плытагоны, кваліфікаваныя сплаўшчыкі.

Бялеюць і гараць сьпелыя стракатыя каласы. Брыгады распачалі ўборку. Выйшлі яны ў поле з новымі песьнямі. І была ў тых песьнях: маладая радасьць ад новага жыцьця, чулася новае наступленьне на непралазныя лясы, на беднасьць, на някультурнасьць, на кулацкую дзейнасьць падрыўную.

Новая песьня грыміць на палескіх збуях. Новую песьню сьпяваюць новыя людзі.

Чачэрск-Менск
1932 г.



**Рамонт малатарні перад уборачнай.**



Ісус: Вось затрухі.. На сто працантаў!.. Папалуднаваць чалавеку ня далі. Ісьцінна глаголю вам...

Голас: Дальбог... давайце тут на рыштаваньні сядзем у цянёк і папалуднуем тут.

Ісус: Даёш шамоўку!

Комсамолец: Гэй ты, дзядзька, га дзядзька, чуеш!

Ісус: Чаго табе, пацан?

Ком-ц: Дзе гэта ты так гутарыць навучыўся?

Ісус: А што?

Ком-ц: Так сабе, дзіўна мне, недзе ты слоў блатных, рамізьніцкіх нахапаўся. Ці ня быў ты раней жулікам?

Ісус: А табе што да гэтага, задрыга комсамольская.

Ком-ц: Нічога... Дзіўлюся ўсё... задрыга... шамоўка... затруха... пацан... мова гэта жульніцкая, не рабочая... а ты так сыплеш гэтымі словамі, быццам вакол у цябе і культурнай рэволюцыі ня было.

Кульгавы: Каціся, каціся, кілбасой. Мы праз гэтую самую культурную рэволюцыю ў сталоўцы і папалуднаваць ня можам... Ідзі адсюль, ня псуй апэтыту.

(Комсамолец пайшоў).

Голас: Пайшоў...

Кульгавы: Пайшоў... шчанё... а яшчэ вучыць бярэцца...

Голас: А як-жа... культурнымі сталі.

Ісус: Бога не паважаюць... Ня вераць... Таму і культурнымі сталі. Раней веруючы народ быў, дык і жылося лепш. Хочаш—сьпявай, хочаш—плюй. Хочаш матам крый, і ніхто табе нічога... а цяперака чуць што—са сталоўкі выкінуць... або штраф плаці. Вось вам і культура, а ўсё ад таго, што ў бога ня вераць...

Кульгавы: Ну іх да чорта. Нават і гаварыць ня варта. Сядайце... Палуднаваць будзеце.

Ісус: Даёш шамоўку!

Кульгавы: О-о-о-о... Сала... селядцы... эх...да такой закускі ды паўлітра... хацеў было я па дарозе, ідучы на работу, забегчы да аднае цёткі, захапіць паўлітра, ды пабаяўся спазьніцца, і так з чорнай дошкі месяц ня злажу... А і выпіў бы я зараз... Ух...

Голас: Так... так... і мне-б не зашкодзіла.

Ісус: Дык у чым справа? Я зараз зраблю. Праўда не гарэлку, а віно... але-ж яно будзе таксама такое моцнае, як і гарэлка.

Кульгавы: Ты зробіш?

Голас: З чаго?

Ісус: З вады... З самай звычайнай вады... Зараз жа пакажу вам цуд. Перартвару ваду ў віно.

Кульгавы: Кінь ты галаву дурыць... Звар'яцеў ці што..,

Ісус: А давай паспрачаемся, што зраблю... Давай на заклад...

Кульгавы: Давай. На колькі?..

Ісус: На чырвонец.

Кульгавы: Давай... Мне чырвонец лішні не зашкодзіць...

Ісус: Мне таксама... Бутэлька ёсьць?

Кульгавы: Ёсьць.

Ісус: Налівай вады... Во-во... так... Ты толькі шчыльна закаркуй яе... Вось так... Ну, я пачынаю...

Голас: Кінь ты дурыць... Прайграеш чырвонец... Нічога ня выйдзе.

Ісус: Маўчы... Апартуніст... Малавер... Вось глядзі ты, я пачынаю... Але... але... фазор, фарса, наер... раз... два... тры... гатова... Можаце піць...

Кульгавы: Ну, давай. Сюды ў кубак... Ды лі, лі поўны. Я якраз вады захацеў. Лі... віп'ю за ўпакой твайго чырвонца... Бывайце здаровы... (паўза). Глядзі... Віно... Дальбог віно... і моцнае якое... як гарэлка.

Голас: Ды, ну? А ну, налі мне. (Паўза). Ты глядзі, якая штука. Сапраўды віно... Вось фокус, дык фокус...

Ісус: А што, апартуніст ты няшчасны... казаў што зраблю, значыць зраблю... а ты, ня выйдзе... А цяпер вось бачыш... віно першы гатунак... во!.. На вялікі палец... Нават мацней за цэнтрасьпіртаўскае... А ты, Лявон, гані манэту... Чырвонец гані... Як гаворыцца ў сьвятым пісаньні... айцец д'якан, грошы на кан...

Кульгавы: Што-ж на, бяры, я чалавек чэсны, чалавек сумленны, я такі... прайграў—аддаю... Але-ж, каб я ведаў такую справу, цэлага бусла вады наліў-бы. Вось бы выпілі.

Голас: Глядзі ты на яго... А мы і ня ведалі, што ты гэткі ўдалы штукар... Во галава дык галава... Я-б на тваім месцы дзень і ноч п'яны быў-бы. Як ты гэта робіш?..

Ісус: Не магу сказаць... Сакрэт. Гэта мяне яшчэ Ной навучыў...

Голас: Які Ной?

Ісус: Так, знаёмы адзін. Марак.

Голас: Таксама мусіць п'яніца вялікі быў?

Ісус: Вядома... мог чалавек выпіць...

Кульгавы: А ну падавайце яшчэ па аднэй... Трымай конаўку... (Паўза). Эгэ-гэ... Пачакай, брат... Алёшка, я яму якую бутэльку даў з кляймом, ці без кляйма?

Голас: Без кляйма.

Кульгавы: А чаму-ж на ёй цяпер кляймо? Вось глядзі, чытай... Віно Белпладавінсаюзу. 40 градусаў... Цана 6 р. 50 к. Браточкі, дык-жа гэта другая бутэлька... Жульніцтва... давай назад чырвонец, басяк...

Голас: Дай яму Лявон у вуха.

Кульгавы: І дам... Думаеце, глядзець буду. Ах ты зладыга, ашуканец! (удар).

Ісус: Госпадзі, даруй ім, бо ня ведаюць што твораць...

Кульгавы: Я ведаю, што натварыў, у вуха табе даў... Што, можа біцца будзеш?

Ісус: Ня буду, бо айцец нябесны вучыў мяне, егда ўдараць цябе ў правую шчаку, падстаў левую.

Голас: Што ён дурнем прыкідваецца. Дай яму Лявон і ў левую... як вучыў цар нябесны.

Кульгавы: І дам. Давай сюды чырвонец, сукін сын... (б'е).

Ісус: Госпадзі... госпадзі...

Брыгадзір: Што за бойка, што за калатня? Брыгада, сюды!

Галасы: Хто б'ецца... У чым справа. П'яны. За што біліся?

Брыгадзір: Эгэ, галубчыкі... Ды вы п'яныя ў драбязіну. Лоўка... Таварышы! Досыць цярпець! Мы будзем ударна працаваць. Мы стараемся ў тэрмін закончыць будынак... Мы абвясьцілі спаборніцтва, у нас ёсьць дасягненьні, а гэтыя вось тры прагульшчыкі і п'яніцы... будуць зрываць усю нашу працу... досыць цярпець...

Галасы: Хопіць! Разьлічыць іх! Выгнаць з брыгады! З пабудовы...

Брыгадзір: Часу мала. Гаманіць з вамі няма калі... Вы ўсе ў трох звольнены. Марш адгэтуль!

Галасы: Правільна! Верна! Гнаць такіх!

Ісус: Як гэта гнаць? Стары рэжым?.. За што змагаліся?.. За што кроў пралівалі?..

Галасы: Ха-ха-ха...

Здарава!

Вось дык змагар...

Кульгавы. Ня маеце права праганяць... мы пабіліся мы і памірымся.

Брыгадзір: Звальняю за сыстэматычныя прагулы і п'янствы. Звальняю, раз вам угаворы і тлумачэньні не дапамаглі, раз вы не паправіліся. Звальняю...

Кульгавы: Ну, і чорт з вамі. Пойдзем, хлопцы!

Ісус: „Придите ко мне все труждающиеся и обремененные и аз упакою вы".

Галасы: Ха-ха-ха...

„Труждающиеся" прагульшчыкі.

„Обремененные" алкаголікі.

Голас: Як гэта ў іх вышла?

Ну, кульгавы гэта стары прагульшчык і п'яніца.

Алёшка таксама, а гэты новы... Што за ён?..

Голас: Вар'ят нейкі!..

*(Працяг будзе).*

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ



Фото І. Салавейчыка.

Перад стартам на судзейскай вышцы.

# УСЕБЕЛАРУСКІЯ СПАБОРНІЦТВЫ „ДЫНАМО“



Фініш прабегу.



Ігра ў валейбол.

# СПАБОРНІЦТВА ПА БАСКЕТБОЛУ










У першай задачы, пры легкай пабудове,—праведзена ў адным варыянце т. з. „Індыйская тэма“, у другім „тэма Дэнсмора“. Шашачны эцюд, аднаго з лепшых савецкіх шашачных эцюдзістаў, прадстаўляе з сябе барацьбу двух дамак і простай супроць дамкі і двух простых, пры тых выпадках, калі адна з простых (чорных) затрымана шашкай супраціўніка. У шашачнай літаратуры вядом толькі адзін аналёгічны вынік пры той-жа барацьбе, але супроць дамкі і адной простай (гл. эцюд. А. Савельева ў час. „Шашкі“ альбо ў зборніку Н. Кукуева 100 эцюдаў). **Той хто дашле дасканальны поўны разьвязак гэтага эцюда, атрымае прэмію.**

У двуххадоўцы Ратнікава праведзена т. з. „тэма Нітвельта“ (аб ей глядзі „Чырвон. Беларусі“ № 2 за 1932 год) у чатырох варыянтах, пры ўскладненьні аднаго варыянта простым разьвязваньнем.

## Аканчаньне № 2 (дыяграма № 4)

Прыведзеная на дыаграме позыцыя, здарылася ў партыі турніра на пяршынство Менску паміж Камянецкім і Эцiным. Ход, у прыведзеным на дыаграме становішчы, за белымі.

Становішча здавалася-бы нічэйнае: рознакаляровыя сланы пры роўных пешках Дзе ўжо марыць аднаму з праціўнікаў аб выйгрышу.

— Нічыя!--пагаварвалі збоку.

— Нічыя!—прапанавалі чорныя, на што белыя адказалі: 1:Kpl2—d3!

Ход выйграючы пешку. Чорным застаецца аддаць пешку h5, альбо c3. Чорныя аддаюць пешку c3.

1 ....... h5—h4.

Калі 1.... Kpf7—g6? дык 2. C:h5+! і выйграюць.

Ход у тэксьцэ лепш чымся 1.... Cg1—d4, які праігрывае партыю. Напрыклад 1... Cg1—d4, 2. Cd1—h5+Kpf7—e7. 3. Ch5—d1 Kpe7—d6, 4. Cd1--a4 Kpd6 c7, 5. Kpd3—c4 Kpe7—d6, 6. Kpc4—b5 Kp d6—c7, 7. Kpb5—a6 Cd 4—e3, 8. в4—в5 Cd4—e3 (калі Cd4—c5, дык, 9. в5—6+!a7:b6 10. Kpa6—b5 Kp. c7—b7, 11. a5—a6+ +Kpb7—a7, 12. Ca4—c2 Cc5—d6, 13. Cc2—d3 і белыя выйграюць) 9.b5—b6+1 a7:b6 10. a5:в6+Kpc7—в8 (калі 10... C:в6 дык 11 a5—ab+! і выйграюць; калі 10... Kp c7—c8 дык 11. Kpa6—a7 і выйграюць) 11. d5—d6 Cd4—c5. 12. d6—d7 Cc5—e7, 13. Kpa6—b5 і выйграюць.

Калі-ж чорныя на 5 хаду на Kpd3—c4 зіграюць Kpc7—b7 дык выйгрыш дасягаецца прасьцей, 6. Kpb5—a6+7 Kpc4, Kpc7. 8. Kpd3, Kpd, 9. Cb3 Kp C7, 10. Cc4, Kpl 7, 11. Kp c2! чорныя вымушаны іграць, 11... Kpa7, пасьля чаго сьледуе 12. d6, Kp b7, 13. Cab+! і выграюць.

| | |
|---|---|
| 2. Kpd3 : c3 | Kpf7—e7 |
| 3 Kpc3—c4 | Kpe7—d6 |
| 4. Kpc4—b5 | Kpd6—c7 |
| 5. Kpb5—a6 | Cg1—d4 |
| 6. b4—b5 | Cd4—e3 |
| 7. Cd1—e2 | ........ |
| Пагроза d5—d6 для чорных ужо сьмярцельна. | |
| 7. ........ | Ce3—c5 |
| 8. b5—b6+! | a7:b6 |
| 9. Kp a5—b5: | Kpc7—b7 |
| 10 a5—a6+ | Kpb7—a7 |
| 11. Kpb5—c6 | і чорныя здаліся. |

Няцікавае становішча і цікавы канец!

## Менск да зьезду

Менск падрыхтоўку да зьезду ў асноўным скончыў 20 ліпеня. На большасьці прадпрыемстваў бюро РК правялі гутаркі аб зьезьдзе. Амаль усе прадпрыемствы Менску далі сваіх прадстаўнікоў на ўсебеларускія спаборніцтвы і прафсаюзных каманд.

17 ліпеня скончыліся спаборніцтвы на пяршынство Менску па шашкам. Пераможцам выйшаў камсамолец Розэнблюм, студэнт Ф-Э. І. былы чэмпіён Воршы, які ўвесь турнір правёў роўна і без адзінага пройгрышу. І толькі 2 і 3-яе месца падзялілі майстра Гардон і Гардзевіч, рабочы заводу імя Варашылава. 4-е заслужана заняў Малецкі, на 5-е падцягнуўся мэталіст Ракітніцкі.

Падрабязныя вынікі відны з ніжэй зьмяшчонай табліцы.

### Турнір на пяршынство Менску па шашкам 1932 года

| | Прозьвішча | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | Разам | Месца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Розэнблюм . . . | * | ½ | ½ | ½ | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 8 | I |
| 2 | Гардзевіч . . . . | ½ | * | ½ | 1 | ½ | 0 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 7½ | II-III |
| 3 | М. Гардон . . . | ½ | ½ | * | ½ | 1 | 0 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 7½ | 2 |
| 4 | Малецкі . . . . | ½ | 0 | ½ | * | 1 | 1 | 1 | ½ | 1 | 1 | ½ | 7 | IV |
| 5 | Ракітніцкі . . . . | ½ | 1/2 | 0 | 0 | * | 1 | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 6½ | V |
| 6 | Ліхтэрман . . . | 0 | 1 | 1 | 0 | 0 | * | 0 | 1 | 1 | ½ | 1 | 5½ | |
| 7 | Абрамаў . . . . | 0 | 0 | 0 | 0 | ½ | 1 | * | 1 | ½ | 1 | 1 | 5 | |
| 8 | Гарбуноў . . . . | 0 | 0 | 0 | ½ | 0 | 0 | 0 | * | ½ | 1 | 1 | 3 | |
| 9 | Лэках . . . . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | ½ | ½ | * | ½ | 1 | 2½ | |
| 10 | Батаяў . . . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | ½ | 0 | 0 | ½ | * | 1 | 2 | |
| 11 | Шнэйвас . . . . | 0 | 0 | 0 | ½ | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | * | ½ | |

Першыя пяць пераможцаў атрымалі права ўдзельнічаць ва ўсебеларускіх шашачных спаборніцтвах.

Шахматны турнір на пяршынство Менску скончыўся перамогай Шэвельмана, не прайграўшага ніводнай партыі і зрабіўшага толькі тры нічые. Другое месца заняў Бабурын. 3-е Насьцюшонак, які добра распачаў турнір, але здаў к канцу. І толькі на 4-ым аказаўся мінулы чэмпіён Менску Касьперскі. На 5-е вышаў Камянецкі.

Першыя пяць уваходзяць ва ўсебеларускія спаборніцтвы.

ПРЫСЬВЯЧАЮЦЦА ЎДЗЕЛЬНІКАМ УСЕБЕЛАРУСКАГА Ш/Ш ЗЬЕЗДУ

ЗА...



Я. Е. КАМЯНЕЦКІ (М...

Мат. у 3 хады

ЗАДАЧА № 72



Н. Е. РАТНІКАЎ (Ворша)

Мат у 2 хады

ШАШ. ЭЦЮД № 1



Я. Х. ГОРДЗІН (Бабруйск)

Белыя выйграюць

Белыя—КАМЯНЕЦКІ



Чорныя—ЭЦІН, ход белых
Дыяграма № 4

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1792. У ліку 4000 экз. Глаўлітбел № 601